*Жыццё, як яно ёсць*

# ШКОЛА— НЕ «ПАНСКАЯ» ВУЛІЦА,

## або Хто будзе жыць у цераме

Другі год на паўднёва-ўсходняй ускраіне Талачына, у былым садзе калгаса імя Леніна, будуецца сярэдняя школа, якой так не хапае дзятве жыхароў райцэнтра. Да радасці бацькоў хутка раслі сцены будучай навучальнай установы, услед за першым паверхам неўпрыкмет выраслі сцены другога. Але затым тэмпы будаўнічых работ застапарыліся, а потым і зусім спыніліся. І вось ужо некалькі месяцаў на аб'екце паўнаўладна гаспадарыць цішыня, панура пагойдваецца пад моцнымі парывамі ветру страла нерухомага вежавага крана. Сумотна глядзіцца пакінутая людзьмі, прысыпаная свежым сняжком будоўля.

Затое незвычайнае ажыўленне пануе побач з пакінутым і забытым аб'ектам, дзе хуткімі тэмпамі ўзводзяцца адразу звыш дзесяці падобных казачным церамам катэджаў. Некаторыя з іх ужо амаль гатовыя да засялення, у іншых толькі ўзведзены сцены ці ўжо вядуцца аддзелачныя работы. Снуюць ля новабудоўляў краны, трактары, важна варочаюцца бетонамяшалкі, зіхатліва ўспыхваюць бліскавіцы электразваркі. Карацей кажучы, будаўніцтва катэджаў пастаўлена на трывалую аснову, зрываў тэрмінаў здачы іх у эксплуатацыю не назіраецца. Ды гэта і не дзіўна, калі ўлічваць, што будуюцца катэджы-церамкі ў асноўным для розных кіруючых асоб раённага маштабу. Да прыкладу, неўзабаве ў адным з іх справіць наваселле начальнік раённага вузла сувязі В. І. Кучынскі, другі двухпавярховы церамок павінен заняць дырэктар райпрамтэхнікі К. І. Жукоўскі, у трэцім у недалёкім будучым паселіцца дачка былога начальніка раёна электрасетак У. Р. Самсонава і г. д. А вось былы дырэктар аўтапарка № 11, цяпер дырэктар райпалівазбыту У. А. Савіліч ужо раскашуе ў двухпавярховым церамку.

Гэты мікрараён новабудоўляў з'яўляецца працягам так званай у народзе «Панскай» вуліцы, якую засялілі раённыя кіраўнікі, у ліку якіх і былы першы сакратар Талачынскага райкома КПБ, цяпер старшыня раённага Савета народных дэпутатаў І. С. Шчурок. Дык хіба для іх не знойдуцца і патрэбныя будаўнічыя матэрыялы, і тэхніка?!

А над недабудаванымі сценамі будучай школы звісае нерухомая страла вежавага крана. Невядома, калі тут зноў з'явяцца будаўнікі, калі ў гэтай школе загучаць галасы дзяцей.

**А. АЛЯКСАНДРАЎ.**

**Ад рэдакцыі.** Як стала вядома, вежавы кран з аб'екта будаўніцтва школы знялі зусім. Пэўна, на «панскай» вуліцы для мясцовай эліты спатрэбіліся дадатковыя магутнасці.

*Беларуская культура ціха плача ў кутку*

# РАЗБУРЭННЕ ХАРЭАГРАФІІ —НЕЗАПАЎНЯЛЬНАЯ СТРАТА

Толькі што споўнілася 28 год плённай працы, якія Леанід Сцяпанавіч Барадулька прысвяціў ансамблю народнага танца «Лявоніха». За спіной поспехі, удзел у фестывалях харэаграфічных калектываў краіны, паездкі за мяжу, дзе радасна віталі беларусаў з абласнога горада. Але ўсё ў мінулым. Сёння ж Леанід Сцяпанавіч—кіраўнік ансамбля, заслужаны работнік культуры Беларусі,—у засмучэнні.

—Цяпер не ведаем, каму,—ён так і гаворыць,—прадаць сябе. Каб намі зацікавіліся, каб нам дапамаглі. Бяда агульнага заняпаду кранула і народныя калектывы, калектывы мастацкай самадзейнасці, якімі мы так ганарыліся. Харэаграфічнае мастацтва знікае, і гэта ў той час, калі нібыта пачалося адраджэнне нацыянальнай культуры, вяртанне да сваіх гістарычных каранёў і традыцый. Распаліся ў горадзе многія калектывы, у тым ліку народны ансамбль танца «Зялёныя агеньчыкі» ДК чыгуначнікаў, ансамбль «Колас» РДК, народны ансамбль танца «Віцьбічы» ДК трэста № 9, і ў гарадскім Доме культуры справы не лепшыя. Ужо няма такіх калектываў, як сімфанічны, духавы, народных інструментаў.

Канстатацыя такіх фактаў наводзіць на сумны роздум. На душы робіцца жудасна. Што ж пасля гэтай крытычнай рысы? Яшчэ не так даўно мы маглі фінансаваць паездку нашых самадзейных артыстаў у Канаду, у Грэцыю, а сёння славутая «Лявоніха» не можа знайсці бензіну для выезду ў санаторый «Лётцы» за некалькі кіламетраў... Яшчэ нядаўна рукапляскалі на алімпійскіх «Гульнях добрай волі», а ўчора на бясплатны канцэрт у гарадскім пасёлку Копці Віцебскага раёна прыйшло 30—40 чалавек, калі магло быць і больш чатырохсот.

—Артыстычнасць, талент выканаўцаў не зменшыліся,—з горыччу гаворыць кіраўнік ансамбля.—Гэта ўсеагульная барацьба за выжыванне, хандра, апатыя вытравілі жаданне радавацца, атрымліваць эстэтычную асалоду. Раней жанчыны ў сельскай мясцовасці часам спазняліся на канцэрт, то карову падаіць не паспявалі, то яшчэ што... Але беглі, а, паглядзеўшы, не раз ускліквалі: «Гэта ж трэба, так танцавалі...»

Але акрамя зацікаўленасці, гаворыць далей Леанід Сцяпанавіч, калектывы распадаюцца з-за свайго фінансавага становішча. На сённяшні дзень кіраўнік аркестра атрымоўвае 150 рублёў (паўстаўкі). Я ж, як кіраўнік ансамбля, 410. Меней уборшчыцы. Раней абласное ўпраўленне культуры адпускала больш грошай, у тым ліку на касцюмы. Зараз засталіся толькі ў старых. Імкнёмся заключыць дагавор з гарадскім цэнтрам культуры, спадзяёмся на абласное ўпраўленне культуры, але суцяшальных прагнозаў не бачым...

Сумна. Горка. Няўжо мы ўсе разам не зразумеем, што канчатковае разбурэнне харэаграфічнага мастацтва стане нічым незапаўняльнай стратай увогуле. Ды і ў прыватнасці, рады беспрацоўных хутка папоўнім выпускнікамі нашага ж кульпрасветвучылішча.

**Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ.**







Несколько запечатленных объективом мгновений из напряженной и творчески активной жизни коллектива Витебского государственного педагогического института имени С. М. Кирова.

Фото **И. ТЕРЕНТЬЕВА.**




даручыць рыхтаваць вопытным супрацоўнікам кафедраў гісторыі ВНУ. Нібыта папярэднія падручнікі па гісторыі БССР рыхтавалі не тыя ж самыя вопытныя супрацоўнікі кафедр ВНУ і спецыялісты-грамадазнаўцы АН! Тыя самыя, якія вывучалі і выкладалі гісторыю не Беларусі, а Паўночна-Заходняга краю Расіі!

Значыцца, да выкладання і стварэння фармальна новых падручнікаў і дапаможнікаў, для падрыхтоўкі настаўнікаў будуць прыцягнутымі старыя, апрабаваныя кадры. У тым ліку тыя, хто абараняў дысертацыі па гісторыі савецкай Беларусі і КПБ. Каб не быць галаслоўным, прывяду лічбы гісторыка Ігара Шаўчука, які на 1991 год налічыў па Беларусі болей за 1200 тых, хто працуе ў галіне гістарычнай навукі. У іх ліку 80 дактароў і 600 кадыдатаў навук. У 60-я гады было абаронена па гісторыі Беларусі і КПБ 163 дысертацыі, у 70-я 285, у 1981—1987—214 дысертацый. «З агульнай колькасці вышэйзгаданых дысертацый,—піша І. Шаўчук,—90 працэнтаў былі прысвечаны савецкаму перыяду гісторыі рэспублікі.» І тут усё было падначалена кан'юнктуры. Напрыклад, у 70-я гады амаль 37% навуковых прац разглядалі розныя аспекты 7-й і 8-й пяцігодак развіцця народнай гаспадаркі, больш за 40%—9-й—10-й пяцігодак. (...). (...). За 27 гадоў (1961—1987) гісторыка-партыйнай тэматыцы было прысвечана больш за 58% усіх дысертацый. Адпаведна спецыялісты па гісторыі КПСС колькасна пераважалі сярод усіх гісторыкаў Рэспублікі. Напрыклад, у Белдзяржуніверсітэце ў 1985/86 навучальным годзе на дзвюх кафедрах гісторыі КПСС працавала 48 работнікаў, у тым ліку 6 дактароў і 33 кандыдаты навук, а на трох кафедрах гісторыі БССР і СССР—адпаведна 33 работнікі—(В.Г.), 4 дактары і 26 кандыдатаў—(В. Г.)

На мой погляд, пакуль не будуць перагледжанымі асновы гістарычнай навукі Беларусі, рыхтаваць і навукоўцаў, і настаўнікаў сярэдняй школы будуць, як і ў папярэднія дзесяцігоддзі.

Перш, чым вучыць навукоўцаў і настаўнікаў сапраўднай, а не фантомнай гісторыі Беларусі, як мне здаецца, патрэбна:

цалкам адмовіцца ад разглядання гісторыі Беларусі як часткі Расіі;

адмовіцца і ад ідэалагізаванай, палітызаванай гісторыі; ад аксіяматычных палажэнняў, што пераўтварыліся ў славесны фетыш тыпу выразаў «класавая барацьба», «маналітнае адзінства», «увесь працоўны народ», «воля працоўных мас» і г. д.;

крытычна перагледзець гістарычныя даследаванні, каб адкінуць дагматычныя схемы, стэрэатыпы і ўжыць карыснае, што паназапашана пры вывучэнні пэўных праблем;

каб не паўтараць памылковых у навуковых адносінах палажэнняў, выявіць паходжанне ўмоў, у якіх яны нарадзіліся;

адмовіцца ад спрошчанага разгляду гісторыі, ад звядзення складанага да прасцейшага і дасягальнага для масавай свядомасці, адмяніць прастату ў тлумачэнні складаных з'яў мінулага.

Прынцыповым палажэннем палічыў бы абавязковую дыскусію. Нельга ведаць гісторыю, не разумеючы, што стыхія гістарычнага пазнання —гэта спрэчка, якая развівае асэнсаванне гісторыі. Яна дазволіць адхінуць, як непатрэбнае, падпарадкаванне навукі прызначаным звыш некампетэнтным асобам, адмовіцца ад знявагі да гістарычных крыніц і іх наўмыснага перакручвання на карысць антынавуковых канцэпцый, ад канструявання гісторыі насуперак агульнавядомым фактам, вольнага ўжывання фактаў.

Пара правесці адкрытыя дыскусіі па тых тэмах, абмеркаванне якіх было забаронена істэблішментам ад навукі і якія асвятляліся толькі з пункту погляду расійскай дзяржаўнай патрэбы, а менавіта:

—аб этнагенезе беларусаў;

—аб ролі Полацкага княства і Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага ў гісторыі дзяржаўнасці Беларусі;

—аб масавых перасяленнях беларусаў у Расію і рускіх на Беларусь;

—аб характары войн між Маскоўскай (пазней Рускай) дзяржавай і Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім;

—аб характары ўзнікнення і існавання Рэчы Паспалітай абедзьвюх нацый;

—аб «Залатым веку» гісторыі Беларусі і ўдзеле Беларусі ў агульнаеўрапейскім гуманістычным і рэфармацыйным руху;

—аб характары ўзнікнення, існавання і гвалтоўнага скасавання царкоўнай уніі на Беларусі;

—аб характары паланізацыі і русіфікацыі беларусаў на розных гістарычных этапах;

—аб месцы класавай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў гісторыі Беларусі;

—аб удзеле розных жыхароў Беларусі ў войнах 1654—1667, 1700—1721 і 1812 гг.;

(Заканчэнне на 6-й стар.).



**Стары́й город.** *(Из серии фотоснимков о Витебске).*

**Фото М. ШМЕРЛИНГА.**

*Дзеці нашы—наш твар*

# І пайшлі яны міма нас...

Раздражнёныя і абыякавыя, хцівыя і дробязныя капошымся мы на гэтай зямлі, так-сяк здабываючы сабе на хлеб. Хутчэй за ўсё па закону біялагічнага развіцця нараджаем дзяцей, пускаем іх у свет белы і забываем пра іх. Яны ж—ідуць міма нас, не трывожачы нас нічым, пакуль не выламяцца з прывычных для нас рамак, пакуль не закрануць нас сваёй агрэсіўнасцю, сваёй жорсткасцю ці злачынствам, якія скіроўваюць супраць сябе ж, супраць нас і нашага грамадства. А мы тады, ужо заднім чыслом, характарызуем іх і выносім пакаранне.

Гэтыя падлеткі—Віталь Лебедзеў і Генадзь Райцын—таксама ішлі міма нас. І не было нам да іх справы ні па месцы вучобы, ні ў кіназале чыгуначнага ДК горада Оршы, дзе на вачах многіх з нас яны збівалі сваіх равеснікаў, рабавалі іх сярод белага дня. І толькі па запытанню міліцыі педагогі пачалі ўспамінаць, якія яны, ды пісаць характарыстыкі.

Лебедзеў В. В.—лянівы, абыякавы, вучыцца слаба, крыўдлівы, успыльчывы, на заўвагі рэагуе вельмі бурна...—так напісалі пра Віталя ў чыгуначным тэхнікуме, дзе ён вучыўся.

А вось гэта пра Генадзя Райцына з ПТУ-122: не вытрыманы, рухомы, прапускае заняткі без уважлівых прычын, грубы ў адносінах да старэйшых.

Гэта ўспаміналася потым, а раней ці да іх было ў нашым жыцці, якое задушана чэргамі, дэфіцытамі, праблемамі ўласнага існавання. І не знойдзеш, пэўна, адказу на пытанне: да чаго ж мы дакаціліся, калі дарослы незнаёмы зусім мужчына проста за так у завуголлі стадыёна налівае падлетку 150 грамаў гарэлкі. Здаецца ж, і яна ў дэфіцыце, але ж ці вып'е з рукі незнаёмага ніколі не піўшы раней хлопец? Значыць, было ўсё раней, было.

У 13 гадзін добра асалавеўшага Лебедзева, у якога заплятаўся язык, сустракае Райцын і вядзе да сябе дамоў. Не для таго, каб перасцерагчы сябра, каб той адаспаўся, а каб падумаць, як правесці вольны час. Сябры накіроўваюцца ў кіно ў названы ўжо Дом культуры. П'яны Лебедзеў знаёміцца з дзяўчынай Галяй (як высветлілася, пра гэтае знаёмства ён нават не помніў) і вядзе яе на апошнія рады ў кіназале, але па дарозе яго погляд скіроўваецца на двух падлеткаў з раёна «Замосце», якія не падабаюцца маладым насельнікам раёна «Молакава». Непаўналетняму С. Слуцкаму і А. Кунцэвічу Лебедзеў наносіць удары па твары. Але гледачоў гэта не хвалюе, а Галя, пэўна, бачыць у сваім спадарожніку незвычайнага героя.

На гэтым не скончылася. Пры дапамозе Райцына Лебедзеў выгледзеў яшчэ адну ахвяру. Непаўналетняга Гурава завялі ў канец кіназалы і пачалі біць, вымагаючы тры рублі грошай, але ў яго было толькі 1 рубель 57 капеек, якія ён пазычыў у сяброў. Тады з рукі знялі гадзіннік «Электроніка».

Што пабудзіла Гурава аддаць гадзіннік і бегчы па грошы для вымагацеляў? Ну, пэўна ж, разуменне свайго становішча. У кіназале нікому не было справы да тых, каго мы нарадзілі і пусцілі ў свет паўз сябе саміх. І нават тады, калі яны напомнілі сваёй агрэсіўнасцю і жорсткасцю, мы засталіся абыякавымі. Абы кранулі не нас.

Ужо пасля, па пісьмовай заяве, была ўзбуджана крымінальная справа і адбыўся суд. З адтэрміноўкай на 1 год і 6 месяцаў В. Лебедзеў асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі, а Г. Райцын—на 1 год 6 месяцаў з гадавой адтэрміноўкай.

# Почему я расстался с милицией?

Мне 32 года, закончил Витебский педагогический институт. По направлению комсомола в 1983 году был принят на должность инспектора по делам несовершеннолетних. Будучи студентом проходил стажировку в инспекции по делам несовершеннолетних Железнодорожного РОВД гор. Витебска.

О милиции ранее знал по фильмам и книгам и пошел на эту службу со светлой идеей бороться с преступниками. Но вскоре понял, что начальник отдела В. Шнеев был абсолютным тираном для работников. Никто не мог ему возразить.

В сентябре 1986 года я уволился по семейным обстоятельствам, но основная причина—из-за начальника.

Через некоторое время узнал, что вынужден был уйти с милицейской службы мой хороший товарищ, так как пытался раскрутить дело против местного транспортного прокурора Александрова.

Очень хотелось бы, чтобы в нынешнее время, когда преступность достигла апогея, была проведена чистка всего руководящего состава, всех подразделений милиции. Думаю, что новый руководящий состав работников правопорядка должен назначаться не министром, а народом. Это мое глубокое убеждение.

**В. КОБЯК,**
**народный заседатель Первомайского народного суда гор. Витебска.**




## БУДЕТ ДОМ ПЕЧАТИ

По поручению городского клуба «За демократические выборы» я был на приеме у председателя облисполкома В. П. Кулакова. Обрадовал он меня своей точкой зрения на использование здания бывшего издательства обкома КП Белоруси. Он считает, что здесь должны быть размещены редакции местных газет.

Итак, в Витебске, возможно будет Дом печати—истинно разумное и правильное решение!

**П. ИВАНОВ.**

# БУДУЧЫНЯ ЎСЁ Ж ЗА НАМІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й—5-й стар.).**

—аб сапраўднай ролі розных рухаў у грамадскім жыцці Беларусі (Філаматаў і інш.);

—аб ролі нацыянальнага руху ў жыцці Беларусі ў XIX—XX ст.;

—аб аднаўленні дзяржаўнасці Беларусі ў XX ст. і сапраўдных прычынах перакройвання яе меж у гэты час;

—аб удзеле сялянскіх мас у барацьбе за ўладу на Беларусі ў 1917—1920 гг., а пазней у калектывізацыі;

—аб характары беларускага супраціву польскім уладам і гітлераўцам у XX ст.;

—аб жыцці Заходняй Беларусі, аб ролі розных партый у складзе Другой Рэчы Паспалітай;

—аб беларускай эміграцыі і дыяспары і шмат яшчэ аб чым.

Прапанаваў бы тое, што будзе не да спадобы большасці—прычым пераважнай—сённяшніх гісторыкаў былой БССР: правесці так званую верыфікацыю, гэта значыць пацвярджэнне кампетэнтнымі камісіямі адпаведнасці навуковых ступеняў і званняў гісторыкаў з улікам раскрыцця тэм іхніх дысертацый і іншых навуковых прац узроўню навукі, а не прапаганды ідэй камуністычнай партыі. Бо большасць гісторыкаў Беларусі—гэта не навукоўцы, а партыйныя прапагандысты, якія прызвычаіліся аперыраваць ідэалагічнымі суджэннямі, але не валодаюць тэорыяй і методыкай гістарычнага даследавання. Патрабуецца і служба ўладкавання на працы людзей, якія прафесійна не адпавядаюць патрабаванням навукі і яе выкладання.

Бо вядома, што былыя супрацоўнікі кафедр гісторыі КПСС, марксісцка-ленінскай філасофіі і эстэтыкі, палітэканоміі і навуковага камунізма, асноў навуковага атэізма—дысцыплін, якія не маюць аналагаў у цывілізаваных краінах—сквапна шукаюць і знаходзяць месцы ў сістэме выкладання гісторыі і філасофіі ў ВНУ. Яны ўжо прычынілі вялікую шкоду маральнаму і разумоваму развіццю студэнтаў, прывучаючы іх да беспрынцыповасці і дагматычнага мыслення, а таксама выконваючы функцыі ідэалагічнай паліцыі. Дык няўжо мы зноў дадзім былым ідэалагічным паліцыянтам магчымасць выкладаць новыя курсы грамадазнаўчых дысцыплін і, у тым ліку, гісторыі Беларусі?

Калі гэта будзе так, то мы змарнуем справу навучання роднай гісторыі як у сярэдняй школе, так і ў ВНУ.

А ў рэшце рэшт, наша справа не абавязкова сёння выйграць у супраціўнікаў стварэння сапраўднай гістарычнай навукі і адукацыі Беларусі. Не абавязкова ўстанавіць сцяг на вяршыні. Больш важна падрыхтаваць будучыню. А яна ўсё ж за намі.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ,**
**дацэнт кафедры музеязнаўства і аховы помнікаў гісторыі і культуры культуралагічнага факультэта Санкт-Пецярбургскага інстытута культуры, Старшыня Рады Беларускага грамадскага культурнага таварыства ў С.-Пецярбургу, кандыдат медыцынскіх навук.**

*Аб гэтым замоўчвалася*

# АСТРОВЕНСКІ КАСЦЁЛ

***428 гадоў назад беларусы на чале з Мікалаем Радзівілам Рыжым па рацэ Вуле і пад Воршай разбілі маскоўскае войска Шуйскага і князёў Сярэбраных. Гэтая перамога пераўвызначыла далейшы ход Лівонскай вайны.***



Муры гэтага храма відаць яшчэ з віцебскага гасцінца. Больш шчыльныя агледзены дазваляюць зазначыць даўняе паходжанне помніка. Звонку—рысы рэнесансу, па фасадзе класіцызм, нутро ж барокавае, дашчэнту працятае зялёнай цвіллю вільгаці.

Мястэчка Астроўна вядомае з XVI стагоддзя. Мела колісь прывілей кіравацца паводле магдэбургскага права, пра гэта яшчэ на пачатку XX стагоддзя нагадвалі рэшткі ратушы ды гадзіннікавая вежа добрай архітэктуры вышынёй у 14 сажаняў. Але з відарысу Астроўна, як і з гісторыі Беларусі не вырваць касцёла, што велічна ўладкаваўся на ўзбярэжжы возера.

Касцёл быў пабудаваны ў гонар бліскучых перамог войска Вялікага княства Літоўскага над войскамі Маскоўскай дзяржавы, якія адбыліся адна за адной у 1564 годзе на Іван-полі пад Чашнікамі і ля рэчкі Крапіўна пад Оршай.

15 лютага 1563 года вялікі князь Маскоўскі Іван Жахлівы пасля працяглай аблохі захапіў Полацк. Полацкага ваяводу Станіслава Давоўну з жонкай, уладыку Гарабурду, Івана Глябовіча і ўсіх літоўцаў насуперак папярэдняй дамове ён узяў у палон і загнаў у Маскву ў няволю, як Юдэяў у Бабілон. Манахаў-бернардынаў загадаў пасекчы, а жыдоў утапіць у Дзвіне. Волю даў толькі чатыром польскім ротмістрам з іхнімі ротамі, надарыўшы кожнага з ротмістраў сабалінай шубай і добра пачаставаўшы. Пакінуўшы ў Полацку баяраў ды ваяводаў: князя Пятра Іванавіча Шуйскага, князёў Пятра і Васіля Сярэбраных-Абаленскіх ды Івана Меншага Васільевіча Шарамецева, з вялікай колькасцю войска сам Жахлівы вярнуўся ў Маскву.

На наступны год маскоўскі гаспадар прыняў і выслухаў каралеўскіх паслоў, але тымчасова ж накіраваў свае войскі да межаў Вялікага княства Літоўскага і спыніў перамовы аб замірэнні. Літоўскія паслы дасягнулі сваёй мяжы і паведамілі, што маскоўскае войска набліжаецца трыма аддзеламі.

23 студзеня Пётр Шуйскі, галоўны ваявода маскоўскага войска, з выбранымі аддзеламі вершнікаў, званых па тым часе кованай раццю, рушыў з Полацка, перайшоў праз Дзвіну і 26 дня таго ж месяца вывеў сваё войска на поле блізу ракі Вулы. Адпаведна загаду Жахлівага Шуйскі намераваўся злучыцца прамеж Воршы і Дуброўнам з маскоўскай раццю князёў Сярэбраных, ідучай са Смаленскай зямлі, змацаваць там лагер і з'яднанымі сіламі пустошыць Літву. Маючы праз лазутчыкаў дакладныя дадзеныя аб прасоўванні войска Шуйскага, гетман найвышні Літоўскі Мікалай Радзівіл Рыжы стаяў на той час у Лукомлі. «У параўнанні з непрыяцелем быў я сапраўды слабы, але сорам і ганьба, прычыненыя мне і ўсёй нашай нацыі і нашаму імені атабраннем у нас места і зямлі Полацкай, прымусілі мяне ўрэшце рушыць супраць непрыяцеля і паблізу Вулы сустрэцца з ім твар у твар»,—пісаў гетман у Варшаву. Ваенныя дзеі разгортваліся ў наступным парадку.

Блізу мястэчка пані Кішчынай (Чашнікі) літоўская старожа паведаміла, што сустрэлася са старожаю маскоўскай. Зараз жа туды адпраўлены былі роты Баркулаба Корсака і пана Бака. Непадалёк ад Чашнікаў тыя роты з людзьмі маскоўскімі сустрэліся і колькі вязняў там даcталі. На паслак ім накіраваны быў князь Саламярэцкі ды пан Мікалай Сапега, а пан гетман дворны з іншымі гуфамі, гарматамі і драбамі ды пан гетман найвышні з троцкім панам Рыгорам Хадкевічам, польным гетманам, стольнікам Іванам Хадкевічам, з князямі Багданам Саламярэцкім, Раманам Сангушкам, Богушам Карэцкім і іншымі хуценька падрыхтаваліся да бою. Прычым, гетман найвышні меў у сваім распараджэнні спрактыкаваных і спраўных ротмістраў: Юрыя Зяновіча, спамянёнага ўжо Мікалая Сапегу, Івана Валмінскага, Юрыя Тышкевіча, паноў Бакаў, Баркулаба Корсака і іншых, а рыцарства літоўскага і рускага, здатнага да бою—не болей чатырох тысячаў.

Калі ваявода Шуйскі з войскам выступіў з лесу на поле, прылягаючае да ракі Вулы, войска Літоўскае выйшла на тую ж раўніну. Нягледзячы на перавагу ў людзях і на мясцовасці, якую маскавіты занялі загадзя. Шуйскі даў мажлівасць Радзівілу разгарнуць свае гуфы, чакаючы на сваёй палове поля. Прыкмеціўшы малую колькасць літоўскага войска, масквіцяны запаліліся варварскай ганарыстасцю і далі мейсца і часу выстраіцца непрыяцелю каля харугваў і падрыхтавацца, спакушаючыся на лёгкую перамогу.

З абодвух бакоў сышліся з вялікай жорсткасцю. Першымі ў валку кінуліся бурграў полацкі і пан Бак, роўны бургграву па адвазе. Следам пайшлі Юры Зяновіч і ваявода Саламярэцкі, тэж мужы слаўныя справамі ўнутры дзяржавы і за межамі яе, знаныя сваім паходжаннем. Колькі часу яны стрымлівалі ўсю моц ворага. Уся бойка доўжылася не болей дзвюх гадзінаў, спачатку той і супраціўны бок адступалі папераменна. Аднак свежыя ваяры, сланыя Радзівіламі туды, дзе ўгледжвалася слабасць, мужнасцю сваёй так хутка збілі непрыяцеля з мейсца, што атабралі ў яго мажлівасць страляць. Пад ноч войска маскавітаў стала ўхіляцца. Паранены Шуйскі змушаны быў ратавацца ўцёкамі. Як толькі быў размецены перадавы маскоўскі полк—за ваяводам пабегла ўсё войска. Літоўскае войска пераследавала ўцякаўшых на працягу пяці міляў, уся гэтая прастора была укладзена забітымі. Нямалая колькасць маскавітаў загінула ў вадзе ракі Вулы і яе прытока Крывіцы. Па падліках найвышняга гетмана страты масквіцянаў загінуўшымі былі лікам дзевяць тысячаў. Палонныя сцвярджалі, быццам агульная колькасць маскоўскага войска сягала 20 тысячаў, Радзівіл жа прыкідваў іх лікам ад 17 да 18 тысячаў. Непрыяцель быў разбіты ўголаў, Шуйскі кінуў на полі ўвесь свой абоз у пяць тысяч з ліхваю павозак, з якіх літоўскае рыцарства багата назапасіла харчоў, футраў, адзення і срэбнага посуду,—мноства латаў, панцыраў, да дзьвюх тысячаў адзінак зброі, мноства рознага вайсковага рыштунку зверх таго, што масквіцяны мелі на сабе.

На вялікае здзіўленне тагачасцаў у Літоўскім войску забітымі налічылі толькі дваццаць чалавек, паранеными—каля сямісот: уцёкі слыннага вельмі адважным ваяводы ахапілі маскавітаў такім жахам, што яны пабеглі як гурт жывёлы.

У гэтай бітве сам гетман найвышні Мікалай Радзівіл паказаў вялікаю мужнасць і досьвед у вайсковым мастацтве. Тут ён даў першы ўрок свайму сыну Крыстафору, юнаку 16 гадоў, з выгляду амаль дзіцяці. Ня меншая слава прыпісвалася адважнасці і мастацтву Георга Гадкоўскага, кашталяну, начальніку наёмных войскаў, гэтаксама яго пляменніку Хадкевічу, юнаку бадзёраму і надзеленаму не толькі вялікім розумам, але і ваеннымі здольнасцямі. Пасля бітвы на Іван-полі Радзівіл меў намер выступіць з войскам да Воршы, каб у тых мейсцах стоячаму непрыяцелю перашкодзіць паглыбіцца ў абшары Вялікага княства Літоўскага і там жа чакаць польскай раці з Барысава.

Войска маскоўскае князёў Сярэбраных, колькасцю да 50 тысячаў, стаяла ў дзьвюх мілях ад Воршы. Яго стрывожыў ротмістр Філон Кміта-Чарнобыльскі наступным хітрыкам. Ён паслаў у Дуброўна ганцоў з весткай аб перамозе над маскавітамі і гібелі Шуйскага на Іванскім полі, а між загадаў ім ехаць туды, дзе па ягоных разліках стаяла маскоўская старожа. Калі маскавіты злавілі ганцоў з тымі лістамі і маскоўскі гетман Сярэбраны прачытаў іх, то яны да таго ўстрывожыліся, што, кінуўшы ўсе абозы, намёты і вайсковы рыштунак, пайшлі наўцёкі з усім войскам. Філон жа Кміта з мсціслаўскім ваяводам Юркам Восьцікам, маючы не болей 2 тысячаў рыцарства, перасьледвалі ворага з крыкам, забіваючы, сякучы і забіраючы ў палон. Пасля гэтакага пагрому масквіцянаў забрана было ў лагеры 25 тысяч вазоў з вялікімі лупамі—каштоўнае адзенне, розныя строі, шлемаў на шэсць тысяч чалавек, якія везьлі за войскам. Такім чынам, дзве вялікія часткі маскоўскага войска, дзякуючы дзіўнай сіле божай і доблесьці літоўскай, былі часткова разсеяныя, часткова вынішчаныя, разьбітыя і пазбаўленыя абозаў. У першай бітве Шуйскі загінуў, цела ягонае было знойдзена ў рацэ. Шарамецеў быў шкодліва прабіты дрэўкам і, прыехаўшы да Полацка, хутка памёр.

Была спынена й папярэджана масіраваная ходка маскоўскага войска ўглыб Вялікага княства Літоўскага.

Цела забітага на Іванаўскім полі Шуйскага было з вялікай пашанай пахаванае ў Прачысьценскай царкве ў Вільні, дзе зазвычай хавалі беларускіх князёў. У 1569 годзе кароль Жыгімонт Аўгуст дазволіць цела нябожчыка памяняць на цела зьмёрлай у маскоўскай няволі малжонкі полацкага ваяводы Станіслава Давойны Петрунелы Радзівілаўны.

Але вернемся зноў да астровенскага храма. Фундатарам касцёлу быў вялікі князь і кароль Жыгімонт Аўгуст, Ён жа ахвяраваў сюды пекны абраз Багародзіцы, упрыгожаны багатымі шатамі. Той першы храм, закладзены Жыгімонтам, быў пабураны, віцебскі ваявода Міхаіл Пацей аднавіў яго. Каля 1620 года Аляксандр Сапега, ваявода мсціслаўскі, пабудаваў пры касцёле кляштар, куды запрасіў манахаў дамініканскага ордэну.

У сучасным стане касцёл уяўляе сабой выцягнуты па восі ўсход-захад будынак. Робяць уражанне мажныя сцены таўшчынёй болей за метр і слупы шырынёй да 1,5 метра. Нефы і апсіда перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У помніку страчаюцца розныя тыпы муровак: у ніжняй частцы гатычная, у пілястрах простая рэнесансовая, тычковая ў заходняй сцяне. Гэта сведчыць на шматлікія перабудовы храма. Апошнюю пераробку касцёл напаткаў у XIX стагоддзі, калі яго перарабілі на царкву, «перакруціўшы» на 180 градусаў. Па ўсёй імавернасці гэта было зроблена пасля здушэння паўстання 1863—1864 гг., тады па Беларусі багата каталіцкіх святыняў перарабілі на расейскі капыл. Тым не менш нават павярхоўнае знаёмства з ім сведчыць на незвычайную цікаўнасць астровенскага твора дойлідства, які адлюстроўвае важнейшыя этапы развіцця і гісторыі беларускай архітэктуры. Дадамо яшчэ, што ў навакольлі Віцебска гэта адзінкава ацалелы культавы будынак, вядомы з XVI стагоддзя. У гістарычным сэнсе касцёл ёсць нацыянальная святыня беларусаў, памятка іхнага гераічнага змагання за незалежнасць. Гісторыка-культурная вартасць мястэчка Астроўна падвышаецца яшчэ й тым, што тут нарадзіўся славуты дзеяч еўрапейскага сярэднявечча, волат інтэлекту, ідэёлаг аднаўлення незалежнасці Вялікага княства Літоўскага Лявон Сапега, адзін з аўтараў Статута ВКЛ 1583 года.

**Міхась ПАЎЛАЎ,**
**малодшы навуковы супрацоўнік Віцебскага краязнаўчага музея.**



**На здымку:** Астровенскі касцёл.

*Крымінальныя справы*

# ШЧОРС З ШАБАНОЎ

Мара аб двухкалёсным каньку-гарбунку даўно не пакідала маладога чалавека пад гучным прозвішчам Шчорс. Таму і аперацыю па яго набыццю ён абдумаў загадзя і дэталёва, бо прыглядзеў даўно, што ў ціхім 1-ым завулку Г. Скарыны каля дома № 15 знаходзіцца гараж грамадзяніна Андрэева, які ставіць туды матацыкл МВЗ-311212 пад нумарным знакам 03-43 ВТЕ. Адна бяда, што гараж закрываецца на навясны замок з моцнымі дужкамі, які не саб'еш якімсьці там камянём ці малатком. Але В. Шчорс (1974 г. н., адукацыя 9 кл.) гараваў не доўга. Са свайго роднага дома ў вёсцы Шабаны Дубровенскага раёна ён прыхапіў нажоўку, паклаўшы яе ў мацерчатую сумку, і прыкаціў у Оршу. З наступленнем цемнаты прыбыў у запаветны завулак, перапіліў дужкі замка і адчыніў гараж. Асядлаў канька-гарбунка і, захлынаючыся ад удачы, паляцеў у родную вёску. Куды там было помніць, што забыўся каля гаража і сумку, і нажоўку.

Нумарны знак Шчорс, зразумела, зняў. Знаёмым гаварыў, што матацыкл падарыла бабуля, а маці казаў, што яму далі пакатацца знаёмыя. Невядома, колькі б раскатваўся хлопец, каб не ўладальнік матацыкла грамадзянін Андрэеў. Ён звярнуўся ў міліцыю з заявай аб грабяжы, прадставіўшы, зразумела, як рэчыўны доказ сумку з нажоўкай. У хуткім часе высветлілася, што ёсць у Шабанах матацыкл без нумарнога знака, які не то далі, не то падарылі Шчорсу. Выклікалі маці, паказалі ёй сярод аналагічных рэчаў сумку і нажоўку, і яна адразу апазнала сваё. Тым больш, што прапажу з дому яна заўважыла даўно, толькі не магла здагадацца, хто да яе прычасны.

В. А. Шчорс чыстасардэчна ва ўсім прызнаўся і пакаяўся. Тым не менш ён быў прызнаны вінаватым адпаведна арт. 141 ч. 2 КК БССР. У выніку, з адтэрміноўкай на 1 год да паўналецця, быў прысуджаны да гадавога тэрміну пазбаўлення волі.



## А говорят, что пресса не помогает

Уважаемая редакция газеты «Выбор». Спасибо Вам от всего учительского коллектива Бешенковичской школы № 1 за опубликованную статью Е. Мальчевской «Маналогі пасля атэстацыі». Благодаря ей мы поверили в силу демократической газеты. Сердечно благодарим за поддержку. Наши требования по переаттестации дирекция после этой публикации выполнила.

Желаем творческих успехов. И просим увеличить число газеты «Выбор» в киоске местной «Союзпечати». Согласитесь, что 20 экземпляров на Бешенковичи, это очень мало.

**Г. ШКИРЬЯНОВА,**
**учительница.**
г. п. Бешенковичи.



**СПРАШИВАЙТЕ—ОТВЕЧАЕМ**

## К сведению граждан, которые переезжают на постоянное место жительства в Израиль

*Уважаемая редакция! Мне сказали, что в Витебске есть представитель Миссионерской службы, осуществляющей духовную и материальную помощь евреям, которые хотят уехать в Израиль.*

**Б. ИСКОВ.**

Знаете ли Вы, что выезд (исход) евреев в Израиль основывается и управляется зовом и глазом Божиим из вечности через Священное Писание: «И соберу остаток стада Моего из всех стран, куда Я изгнал их, и возвращу их во дворы их...» (Библия, Книга пророка Иеремии, глава 23, стих 3).

Миссионерская служба Ханикоум Министриз (США) «Honeycomb Ministries» окажет Вам моральную поддержку, а также оплатит авиабилеты и перевозку (фрахтовку) вашего имущества любых габаритов при выезде на ПОСТОЯННОЕ место жительства в землю обетованную.

Документы на выезд оформляются САМОСТОЯТЕЛЬНО.

**Адрес для письменных обращений:** Республика Беларусь, 210026, Витебск, ул. Ленина, 52А, отдел доставки, п/я № 5 ХКМ

**Контактный телефон в г. Витебске: 36-63-13.**

*Кинопремьера*

# *Почему витеблянам нравится «Терминатор»?*

«Терминатор-2». США, 1991 год, режиссер Джеймс Кеймерон. В ролях: Арнольд Шварценеггер, Линда Хемилтон.

Придя в себя после каскада технических ухищрений, трюков и компьютерных съемок, поневоле задаешься вопросом: что же заставляет зрителей вновь и вновь не отрываясь следить за похождениями легендарного Терминатора, хотя сюжет давно известен? И почему у нас в стране никак не научатся делать достойное коммерческое кино, которое разлеталось бы по миру на кассетах с быстротой снаряда? Голливудские боевики через месяц-другой после премьеры уже достигают пределов нашей страны. А наши никак не могут найти своего зрителя—увидеть на экране советский фильм сейчас нелегко, о белорусских же и речь не идет.

Конечно, можно в очередной раз пожаловаться на материальные трудности. Обруганный за техническое несовершенство в общем-то неплохой фантастический боевик «Подземелье ведьм»—тому свидетельство. Но это лишь одна сторона проблемы. Одними трюками современного зрителя особо не привлечешь, всякое мы перевидали. Словом, дело не только в супертехнике, а в той неуловимой вещи, которая называется талантом, профессионализмом или просто умением делать кино. Наши режиссеры, ударившись в коммерцию, по-видимому, плохо представляют, что это такое. Ведь коммерческий успех фильма на Западе планируется заранее. Здесь нельзя ограничиться механическим наслоением драк и убийств на единицу времени. Почему Спилберг стал Спилбергом, а Кеймерон—Кеймероном, чьи имена заставляют замирать сердца в предвкушении потрясающего зрелища? Ведь ничего нового в кино они не внесли. Но ведь и ван Бастен не изобретал удар в падении через себя, хотя это не мешает болельщикам восхищаться его мастерством. Всем известный (в Америке) набор приемов, воздействующих на сознание и подсознание зрителя, просто-напросто доведен в «Терминаторе» до совершенства, до своей вершины. Главным достоинством фильма является дух захватывающий темп действия, в котором подчинено все одной идее, все лишние детали отбрасываются. Динамику создает и музыкальное оформление, и виртуозная операторская работа. В результате из одних и тех же «кубиков» создается такая «постройка», до которой нашим «архитекторам» еще ой как далеко...

**В. ФЕНЧЕНКО.**

## Веселый глобус

—Сэр, ваша болезнь обогатит медицинскую науку!
—О господи! А я думал, что заплачу всего долларов пять.

***

—Скажи, Джон, в чем разница между трудом и капиталом?
—Когда ты даешь деньги взаймы, это—капитал. А когда ты пытаешься получить их обратно, это—труд.

***

—Скажите, продавец, вы можете бросить мне одну за другой пять рыбин так, чтобы я их поймал?
—Да, но почему?
—Я, может быть, плохой рыбак, но я не лжец.

**Следующий номер газеты выйдет 5 февраля 1992 года.**

Выбар

*УЧРЕДИТЕЛЬ:*
*Витебский городской клуб избирателей «За демократические выборы».*

**Главный редактор**
**Леонид ЦВИКА**

Художники Г. Кликушин, Д. Дятлов.
Фотографии А. Гапонова, М. Михайлова.
Макет номера В. Челнокова.
Временный адрес редакции: 210026, г. Витебск, ул. Маяковского, 1.

**Авторы опубликованных материалов несут ответственность за подбор и точность приведенных фактов, цитат, экономико-статистических данных, имен собственных, географических названий и прочих сведений, а также за то, что в материалах не содержится данных, не подлежащих открытой публикации.**
**Редакция может опубликовать статьи в порядке обсуждения, не разделяя точку зрения автора.**

Рукописи не возвращаются и не рецензируются.

Текущий счет редакции № 200700962 в Витебском коммерческом банке («Виткомбанк»). Код (МФО) банка 150801701.

Газета набрана и отпечатана офсетным способом в Витебской укрупненной типографии им. Коминтерна: гор. Витебск, ул. Щербакова-Набережная, 6.

Полиграфисты: **В. Корунас, Т. Халеева, Л. Дроздова, А. Каспорович, Д. Малышев, Б. Платовский.**

Номер подписан к печати 21.01.92 г. в 17.15.
Зак. 900 Тираж 2500.

*Цена 40 коп.*